№ 389

Opłata pocztowa uiszczona ryczałtem.		ЦАНА АСОБНАГА НУМАРУ 55 ГР.



# ЖАНОЦКАЯ СПРАВА

**Орган Аб'яднаньня Беларускіх Жанчын імя Алёізіі Пашкевічанкі (Цёткі).**

ВЫХОДЗІЦЬ РАЗ У МЕСЯЦ.

*ГОД ВЫДАНЬНЯ I.   ВІЛЬНЯ, ТРАВЕНЬ 1931 Г.   № 3*

## Калі дзень дагараець...

Калі дзень дагараець і цені
Выпаўзаюць з прыцёмных кутоў, —
Ўсіх старых пазабыцца хаценьняў
    Я гатоў...
І глухі на вячэрнія гукі,
Што калышуць сьвядомасьць маю,
Поўны дзіўнае радасьці — мукі
    Я ўстаю.

Штось бяз межаў, як веліч сусьвету
Я хацеў-бы сягоньня тварыць,
Горкі смак недасягненых мэтаў
    Пазабыць...
Праклясьці непатрэбных хістаньняў
І чаканьня бяссільныя дні,
Нарадзіцца для новых жаданьняў
    На зямлі.

*Н. Арсеньнева.*

Běloruský zahraniční archiv
Praha
Беларускі заграніцны архіў

## Пясьняркі Ўсходняе Беларусі.

(Працяг).

*В. Вішнеўская.*

### Завіхрылі...

Завіхрылі, завіхрылі
Віхры ў полі, у чыстым полі,
Завіхрылі ў чыстым полі,
На разложыстым прывольлі.

---

Зацягнуўшы сінь нябёсаў,
Неба ў хмары ўбралося,
Неба ў хмары ўбралося,
Шэрым смуткам залілося.

---

Верхалістыя бярозы
Паскідалі на дол сьлёзы,

B. 9

Паскідалі на дол сьлёзы, —
Буйна - іскрыстыя росы.

---

І, абтросшы ўбёр зялёны,
Завіліся ў чырвань скроні,
Завіліся ў чырвань скроні,
Паабтросшы ўбёр зялёны.

---

На балоце ў шэрай далі
Рассыпаліся каралі,
Рассыпаліся каралі
Журавін у мшыстай далі.

---

Журавы ў неба белі
У край далёкі адляцелі,
У край далёкі адляцелі
Журавы ў мглісты белі.

---

Віхры веюць у чыстым полі,
У чыстым полі на прывольлі,
Веюць віхры на прывольлі,
Апавіўшы смуткам поле.

---

## Ноч.

Не шапоча над рэчкай чарот
У лёгкім подыху кволых дрымот...
Хвалі сіняй ракі
Спавілі берагі —
Сьпяць...

Явар стан пахіліў над ракой,
Чуць ваду закрануў галіной,
У вясковай красе,
У брыльянцістай расе
Задрамаў...

Месяц вынырнуў з хмар залатых,
Зазірнуў у люстэрка вады,
Заблукаў у кустох,
У маладзенькіх лістох
Загуляў...

Раптам ветрык узьняўся наўсьцяж,
Зашасьцеў у карунках лісьця,
Кроплі ясныя рос —
Дыямэнтавых сьлёз
Паскідаў...

Зашумеў ціха, ціха лазьняк,
І дубняк свой голас узьняў,
Усё сьціхла ізноў...
Сон над чорнай зямлёй
Панаваў.

---

## Гэй, ляці...

Гэй, ляці, мая першая песьня,
У кужэльную шэрую вёску.
Гэй, туды дзе ў хаце курнай
Тчэ жанчына схіліўшыся кросны!
Ты напомні, што час паднявольля
Зьнік у тхлані шэра - туманнай.
Што праменьнямі новае сонца
На прадвесьні ёй зьзяе загнанай...
Што ў цемру мінуўшчыны шэрай
Адышла жнейка вечна прыгонная,
І на месцы яе, у зьзяньні новым жыцьця,
Устала жніца свабодных загонаў.
Ужо ад хатніх турбот векавечных —
Ад жніва, ад калыскі дзіцяці
Яе клічуць к сабе ўсеўладна, —
Яе кліча вялікая праца.

---

## Беларусь.

Помню буры агнёвым нападам
Над сялянскаю хатай віхрылі,
Беларусь цёмнавірным напевам
Бы былінку да долу хілілі.

У туманамі спавітых абшарах
Крыві братняе рэчкі цяклі,
І здавалась, пад цяжкай навалай
Беларусі ўжо зьлічаны дні.

Але не, Беларусь непакорная!
Хіба знойдзецца сіла такая,
Каб навеяла сёньня дні чорныя,
Што ўчора над ёй панавалі?

Ужо галоваў ня схіляць болей
Беларусі магутнай сыны,
Калі шчасьце пазналі праз волю,
Калі зьзяюць ясныя дні...

(Творы Я. Пфляўмбаўм падамо ў наступным нумары).

---

*Кожная сьвядомая беларуска павінна руліцца аб тым, каб захавалася наша родная беларуская мова, песьня і вопратка.*

# З ЖАНОЦКАГА СЬВЕТУ.

## Дзень 10 траўня — дзень Маткі.

Пад такім загалоўкам выдала адозву Ўкраінскае Грамадзянства, як арганізацыі жаноцкія, так і іншыя культурна-асьветныя ўкраінскія арганізацыі. Падаем цалком гэтую адозву.

„Трэці ўжо раз прыступае ўкраінскае грамадзянства да сьвяткаваньня „Сьвята Маткі“, сьвята народнага і сямейнага.

Ідэя „Сьвята Маткі“, што знайшло зразуменьне ў ува ўсім культурным сьвеце, прышчапілася і ў нас.

„Сьвята Маткі“ увах одзіць у нас у жыцьцё і стараецца яго пашырыць арганізаванае жаноцтва. Гэта зьяўляецца доказам, што нашыя сьвядомыя жанчыны разумеюць значэньне Маткі на шырокіх жыцьцёвых шляхах, якое адкрыла ім раўнапраўнасьць. Жанчыны разумеюць мацярынства сваім найглыбейшым і найістатнейшым назначэньнем. Уважаюць яго падставаю сілы Народу і аднэю з найматутнейшых асноваў Народу і Дзяржавы.

Усе адчуваем ў глыбіні сэрца, якое вялікае значэньне мае для сям'і і для народу сьвядомая сваіх заданьняў Маці. А ўсё-ж такі не заўсёды і ня ўсюды выказваем гэтае разуменьне ў сямейным і грамадзкім жыцьці. Дык няхай-жа „Сьвята Маткі“ прыпамінае нам гэтак часта недацэньваную, занядбаную ды забытую Матку. Украінская Маці — Маці Страдальніца.

Доўгія стагодзьдзі аддавала Яна найвялікшую ахвяру — жыцьцё сваіх дзяцей — другой Матцы—Бацькаўшчыне, ахвяру часта дарэмную.

Апошні народны ўзрыў, які каштаваў столькі сьлёз жывых яшчэ сягоньня Матак, аднавіў гэтую традыцыю, якая будзе жыць сярод нас, аж пакуль гэты пасеў крыві і сьлёз Матак ня дасьць пажаданых пладоў.

Дзень 10 траўня прысьвяцім Украінскай Матцы. Выразім веліч Яе сьвяточнымі абходамі, у якіх выявім пашану і любоў да Яе.

Ушануем Яе сьвятам ў сям'і. Гэта паставіць Яе на належнае месца і агорне належнаю Ёй любоўю.

Няхай гэты дзень аб'яднае нас у ўдзячнасьці за мінулае, у спадзяваньні радаснага Заўтра.

Подпісы ўкраінскіх арганізацыяў: „Саюзу Ўкраінак“, „Просвіты“, „Рідноі Школы“, „Украінськоі Захоромкі“, „Т-во Охороны дітей і опіки над Молодю“.

Падаючы да ведама нашых паважаных падпісчыц і чытачак аб „Сьвяце Маткі“, Аб'яднаньне Беларускіх жанчын імя „Цёткі“ кліча ўсіх Беларусак да працы дзеля арганізацыі нашых жанчын на вёсцы. Нашы беларускія жанчыны мусяць быць таксама зарганізаваны, як і ў іншых краінах, каб гэтым самым маглі прымаць актыўны ўдзел ува ўсіх праявах жаноцкага руху, а нават часамі і ініцыяваць яго.

Каб, напрыклад, такое „Сьвята Маткі“ мы Беларускі маглі таксама правесьці арганізавана і ўрачыста.

Дык арганізуймася, сястрыцы, і бярэмся дружна да працы!

## Справа падданства жанчыны.

Як падае „Ж. Д.“ Інтэрнацыянальная Жаноцкая Рада між іншым займаецца з 1904 г. справаю наданьня жанчыне правоў пры выхадзе замуж зьберагчы свае дзявочае падданства. За апошнія часы гэтую справу значна пасунулі наўперад. Для шырэйшае папулярызацыі гэтае справы пры Інстытуце высокіх інтэрнацыянальных навук у Жэнэве наладжана шмат рэфэратаў, у якіх разьвінена была думка прафэсара Гудэнгейма (Gudenheim'a) што „кожнай жанчыне ці то замужнай ці незамужнай належыцца нароўні з мужчынаю права захаваць свае падданства, або *па сваёй волі* зьмяніць яго“.

З прычыны разгляду гэтага пытаньня на канфэрэнцыі зьмены прыватнага права ў Гаазе, (Нідэрлянды) жанчыны з тае нагоды зладзілі ў горадзе Гаазе вялікую маніфэстацыю.

На гэтую канфэрэнцыю шмат дзяржаваў ў свае дэлегацыі вызначылі жанчын: Бэльгія — гр-ка Рэнсон; Нідэрлянды — гр-ка Шонфэльд; Англія — гр-ка Вільямс; Злучаныя Штаты Амэрыкі — гр-ка Вольд.

Да дзяржаваў, якія ўжо вызначылі права за жанчынаю захаваць свае падданства, або па сваёй волі яго зьмяніць, належаць Куба, Аргэнтына, Бразылія, Чылі, Колюмбія, Панама, Парагвай і Ўрагвай.

*Кожная сьвядомая беларуска павінна выпісаць беларускую часопісь «Жаноцкая Справа», чытаць яе сяброўкам і пісаць туды весткі з свайго боку.*

# ВОН ГАРЭЛКУ З ХАТЫ.

З сумам прыходзіцца чытаць на старонках рознай прэсы аб тых бойках, нават забойствах, якія бываюць вынікам п'янства, на хрэсьбінах, вясельлях, хаўтурох, кірмашох, а нават на звычайных вечарынах. На вечарынкі зьбіраецца моладзь, каб паскакаць, павесяліцца, забыцца аб штодзенных клапотах, бо-ж гэтага вымагае яе поўнае сілы маладое жыцьцё і гэта зразумела. Але гарэлцы там месца быць не павінна. Моладасьць сама шуміць, бурліць, шмат мае ў сабе энэргіі, сілы і падымаць настрой пры помачы гарэлкі зусім лішняе, а нават у найбольшай меры шкоднае. На жаль прыходзіцца сьцьвердзіць, што віною ў гэтым зьяўляемся і мы жанчыны. Бо ці-ж ня ў нашых хатах, ня нашы мужыкі, а на іх гледзячы і дзеці, а часам і мы самыя для кумпаніі перакінем адну, другую чарку.

Здаецца, што гэта так сабе, а колькі бяды вынікае з гэтага. Гарэлка найгоршы вораг чалавека: яна, затуманіваючы розум, зьніжае яго да ролі скаціны і торкае на ўсялякія праступкі. Вынікам усяго гэтага зьяўляецца вязьніца, хвароба, а часам і сьмерць. Дзякуючы гарэлцы, занепадае гаспадарка, бо грошы, якія так трудна зарабіць, ідуць на гэную атруту. Часам-жа прадаецца апошняя скаціна і ўсё ідзе на гарэлку, а сям'я сядзіць галодная, халодная ды босая. Гарэлка падрывае здароўе. Дзеці алкаголікаў родзяцца кволымі, хваравітымі, а то і зусім ідыётамі. На жанчыну-ж заўсёды спадае ўсё няшчасьце, прынесенае гарэлкаю. Ня раз прыходзіцца жанчыне ўціраць сьлёзы і насіць нават сінякі. Дык вось і тут на абавязку жанчыны ляжыць устрымаць гэную бяду і выгнаць гарэлку кожнай з сваёй хаты, а ўсім разам — з вёскі, каб ня плакаць, не насіць сінякоў, не цярпець бяды ў хаце ды заняпаду ў гаспадарцы.

Калі возьмем вясельле, хрэсьбіны ці нават хаўтуры селяніна серадняка і падлічым, колькі каштуе гарэлка, дык сьмела можна было-б купіць за гэныя грошы ня толькі ўсе неабходнае ў гаспадарцы, — а нават купіць пару ўшчэпаў, ягадных кустоў, і засадзіць садок, а праз некалькі гадоў мець з яго маленькі даход. Трудна пералічыць усё тое, што можна было-б мець, каб не выдаваць грошаў на праклятую гарэлку і што забясьпечыла-бы здароўе, лад у хаце і жыцьцё бяз сваркі. Ад таго-ж што вып'юць бутэлек 40 ці балей гарэлкі пры кожнай гэтакай прыгодзе, нікому нічога добрага ня прыбудзе і шчасьця гарэлка, паверце, ня дасьць. На нас жанчынах ляжыць абавязак узгадаваць новае здаровае пакаленьне, перад якім ляжыць непачаты кут працы, каб вывясьці наш беларускі народ з цяперашняга сумнага і цяжкага становішча на роўны і сьветлы шлях. Дайсьці мы можам да лепшае будучыні толькі сваёю бязупыннаю працаю і сьветлым, не затуманеным гарэлкаю, розумам. Дык вон ганеце гарэлку з хаты! Няхай ёй ня будзе месца ў сям'і сьвядомай беларускай жанчыны!!

**А. Астроўская.**

---

***Сястрыцы, дбайце, каб у вашай весцы была беларуская бібліотэка-чытальня. Калі яна есьць, хадзеце туды чытаць беларускія кніжкі і клічце з сабою сваіх нясьведамых сяброваk.***

---

# Гутаркі аб гігіене.

(П р а ц я г).

Другая пясьля сухотаў хвароба, на якую часта хварэюць у нашым краі, гэта *тыфус*. Усьцяж здараюцца паадзінокія прыпадкі гэтае хваробы, але бываюць і масавыя западаньні, якія называюцца эпідэміяй. Тыфусаў ёсьць тры: *брушны, сыпны* і *паваротны*. Брушны тыфус выклікаецца тыфусовай бактэрыяй. Хворы на брушны тыфус чалавек мае кішкі, ўсеяныя тыфусовымі бактэрыямі і выдзяляе іх із сябе праз свае выдзяліны (кал і мачу). Па выхадзе ад хворага чалавека, бактэрыя гэтая часта пападае ў ваду ды на гародніну, якая расьце нізка пры зямлі, забруджанай выдзялінамі хворых людзей. У ваду бактэрыі пападаюць тады, калі студні ня ўтрымліваюцца чыста, або — што найважней — знаходзяцца заблізка ад клязэтаў; тады вадкія часьці стуль прасачываюцца ў калодзезную ваду і заражаюць яе.

Можна таксама заразіцца беспасярэдня ад хворага чалавека — праз ягоную пасуду, астаткі ежы, або запэцкаўшы свае рукі каля

хворага. У чалавека, хворага на брушны тыфус, яшчэ доўга — некалькі месяцаў — пасьля выздараўленьня знаходзяцца ў выдзялінах яго тыфусовыя бактэрыі. Такі чалавек, дакранаючыся нячыстымі рукамі да малочных прадуктаў пры іх прыгатаўленьні, можа перанесьці на гэтыя прадукты заразу і будзе прычынай заражэньня многіх людзей, хоць-бы яны знаходзіліся і на вельмі далёкай адлежнасьці ад яго. Таксама можа быць разьнесена зараза, калі пасуда, у якой дзержаць або прыгатаўляюць гэтыя прадукты, перамываецца заражанай вадой. Памагаюць часта пашырэньню брушнога тыфусу і мухі, якія пераносяць бактэрыі з выдзялінаў чалавека на ежу. Цікава, што ў гарадох, дзе ёсьць добрая каналізацыя, чыстасьць і добрыя гігіенічныя варункі, як напрыклад у Нямеччыне, выпадкі брушнога тыфусу здараюцца надта рэдка.

Каб забясьпечыць сябе ад заражэньня брушным тыфусам, трэба 1) піць найлепш гатаваную ваду, 2) даіць кароў і прыгатаўляць малочныя прадукты чыстымі, добра вымытымі рукамі, 3) кожны чалавек павінен часта мыць рукі — абавязкава перад кожнай ежай ды схадзіўшы ў клязэт, 4) старацца ўсімі спосабамі вынішчыць мух.

Другі тыфус — гэта сыпны. Сыпны, як і брушны, здараецца ад часу—да—часу, але бываюць у галодныя гады або ў часе вайны страшныя эпідэміі, падчас каторых выміраюць цэлыя вёскі. Бактэрыі сыпнога тыфусу пераносяцца *вошамі* ад хворага ў кроў здаровага. У культурных краёх, дзе гэтыя паразіты ня водзяцца, ня ведаюць зусім гэтае хваробы. Немцы пазнаёміліся з ёй толькі ў часе сусьветнае вайны, калі занялі Польшчу і наш край. З гэтага вы бачыце, што і нам лёгка было-б пазбыцца гэтае хваробы: *захоўваць чыстасьць у адзежы, пасьцелі, ды часта мыцца, не накрывацца кажухом, які служыць за найлепшае гняздо для вошы. — адным словам, трэба вывясьці вошы,* і мы ня будзем мець гэтай цяжкай і небясьпечнай хваробы.

Падобная да брушнога тыфусу хвароба па спосабу свайго распаўсюджываньня—гэта *халера.* Бактэрыя, якая выклікае халеру, знойдзена была нямецкім вучоным Кохам, тым самым, што выкрыў бактэрыю сухотаў. Гэта бактэрыя мае форму коскі і называецца коскай Коха. Заражэньне, як і пры брушным тыфусе, адбываецца праз рот. Пасярэднікам служыць вада і прадукты, забруджаныя заражаным калам, бо яны разьвіваюцца ў чалавека ў кішкох і выходзяць із яго разам з калам.

Яшчэ адна аналягічная да пералічаных ужо хваробаў будзе *дызэнтэрыя* (крываўка). Яна выклікаецца спэцыяльнай дызэнтэрыйнай бактэрыяй, якая таксама месьціцца ў кішкох і выходзіць вонкі з калам. Распаўсюджываецца яна праз заражаную ваду і ежу. Памагаюць гэтаму і мухі. Дызэнтэрыя пашыраецца найбольш у канцы лета і ў восень, калі шмат гародніны і садавіны, якія ядуцца сырыя і могуць лёгка быць заражаны рознымі спосабамі: вадой, мухамі, або бруднымі рукамі. Вось чаму, калі няма пэўнасьці ў абсалютнай чыстасьці гародніны ці садовіны, лепей іх есьці варанымі або ачышчанымі.

Другая група заразных хваробаў — гэта тыя, у якіх бактэрыі пападаюць у кроў чалавека *праз раны.* Некаторыя хваробы гэтае групы даволі часта спатыкаюцца ў нашым краі. Гэта будуць: аслупяненьне, або стаўбняк, сібірская язва, або мор, ды шал. Гэтыя хваробы асабліва цікаўныя для жыхароў вёскі. На першыя дзьве хваробы — стаўбняк і мор — хварэюць выключна траваядныя жывёлы: коні, каровы і авечкі. У гнаі гэтых жывёлаў часта знаходзяцца бактэрыі стаўбняка, і затым у зямлі садоў і палёў часта бываюць гэтыя бактэрыі. Чалавек можа захварэць на стаўбняк, калі забрудзіць рану заражанай зямлёй або гноем. Гэтыя бактэрыі разьвіваюцца ў адсутнасьці тлёну, дзеля таго найбольш небясьпечны раны глыбокія, вузкія, прыкрытыя скурай, або брудныя (стромкі). Каб памагчымасьці забясьпечыць сябе ад гэтае хваробы, трэба кожную, хоць і маленькую ранку, асабліва забруджаную зямлёй, добра вымыць і заліць дэзынфэкцыйным лекам, напрыклад ёдам, сулямой або інш. Каб захварэць на мор, таксама трэба, каб бактэрыі гэтае хваробы папалі ў ранку, хоць-бы і найменьшую, ды адтуль у кроў чалавека. Бактэрыі мору знаходзяцца ў крыві, органах, скуры, поўсьці і валасох хворае жывёлы. Хварэюць на мор найбольш людзі, якія маюць дзела або з хворымі жывёламі, як гаспадары, мясьнікі, або работнікі, якія вырабляюць скуру, воўну, або валосьсе жывёлы. На шал хварэюць найчасьцей сабакі і каты. Бактэрыі шалу знаходзяцца ў крыві, мазгох і ў сьліне хворых жывёлаў. Людзі хварэюць ад укусу найчасьцей хворае сабакі, якая заражае ранку сваей сьлінай. Каб частакова забясьпечыць сябе ад гэтае хваробы, у культурных краёх сабак не выпускаюць без наморднікаў. Кожная ранка ад укусу павінна быць старанна прадэзынфэцыравана і нават прыпалена агнём або едкім лекам. Пры падазрэньні, што сабака, які ўкусіў, хварэе на шал, трэба адразу прышчапіць процішалавую вакцыну, але гэта можна зрабіць толькі ў спэцыяльных інстытутах, якія ўстроены ў вялікшых местах.

(Працяг будзе).

**Д-р Зофія Луцкевічовая.**

Běloruský zahraniční archiv · Praha · Беларускі заграничны архіў

*Пашырайце часопіс „Жаноцкая Справа“.*

# Больш сонца!

Сонейка — гэта наш найлепшы прыяцель і таму мы павінны цешыцца, што надышла пара году, калі яго будзе так многа, што сваімі залатымі, гарачымі праменьнямі яно разбудзіць усю прыроду з зімовага, доўгага сну. Такога дарагога госьця трэба спаткаць радасна і ветліва: адчыніць як найшырэй вокны, каб ён мог заглянуць і ў нашую бедную, вясковую хату. А гэта для сонейка заданьне труднае, бо ў нас пераважна ваконцы маленькія ды так замураваныя, што і адчыніць часта нельга. Праменьні-ж сонца дужа патрэбныя для здароўя чалавека. Таксама як расьлінка ў цені расьце кволая так і дзіця бяз сонца расьце кволае і слабое. І хвароба да яго тады хутчэй прыстае. У летку людзі старшыя ідуць на работу ў поле, на сьвежае паветра, а дзяцей часта пакідаюць у душнай, цёмнай хаце. А сонейка — гэта найбольшы вораг хваробы, бо яно забівае сваімі праменьнямі тыя малыя, ня бачныя заразкі, якія выклікаюць розныя хваробы. Таму трэба, каб па магчымасьці больш сьвятла было ў нашай хаце, каб гэны скарб залаты быў падзелены пароўну паміж багатымі, што жывуць у дамох з прасторнымі пакоямі ды вялікімі вокнамі — і беднымі, бо яны таксама маюць права да карыстаньня з багацьцяў прыроды.

Толькі вось ня ўсе хочуць працягнуць руку па тое, што ім слушна належыцца, і яшчэ цяпер будуюць хаты з маленькімі ваконцамі, праз каторыя сонейка ледзь можа праціснуцца. Ды ставіць трэба хаты з вокнамі *на поўдзень*, каб па магчымасьці больш і даўжэй гасьціла ў нас сонца ў працягу дня. А самыя вокны трэба так зрабіць, каб можна было іх адчыняць і ў зімку, бо сонейка праз шкло ня так карыснае, дый сьвежае паветра патрэбна для здароўя, асабліва зімою, калі большую частку дня сядзяць усе ў хаце. Каб занадта ня выстуджваць хаты, адчыняючы цэлае вакно, робяцца ў вакне форткі. У сваіх лятуценьнях кожны павінен бачыць прасторную хату, сьветлую, з вялікімі вокнамі, выходзячымі на поўдзень, ды так зробленыя, каб можна было іх адчыняць, бо толькі такія абставіны змогуць даць здароўе, бадзёрасьць і сілу змагацца з цяжкімі ўмовінамі жыцьця. Толькі ў здаровым целе, здаровы дух, як кажа прыказка. Дык трэба дбаць аб сваё здароўе і сваіх дзетак і ўжо ад малых гадоў загартоўваць іх. Як найбольш трымаць на сьвежым паветры, на сонейку, каб зрабіць іх непадатнымі на ўсялякія хваробы.

Здаровы чалавек калі і захварэе, то ён доўга ляжаць ня будзе, бо яго здаровы арганізм зможа хутка хваробу. Памятаймо, каб у летку не адзявацца ў такую цёплую вопратку, якая не прапускае ані паветра ані сонца. Дзецям-жа, апрача белай хустачкі на галаву, ды тоненькай палатнянай сукеначкі, нічога болей ня трэба.

У сьцюдзёны-ж час дзяцей адзяваць трэба цёпла, але ня так, каб яно не магло нават дыхнуць, адзетае ў цяжкі бацькаў кажух. І замест таго, каб магло пабегаць ды пагуляць са сваімі таварышамі, яно сядзіць або стаіць, беднае, ды рушыцца ня можа. Тое самое датычыць закручваньня горла або галавы сабе ці дзіцяці некулькі хусткамі цёплымі, асабліва тады, калі і ня надта халадна, проста з прывычкі — гэтага рабіць ня трэба, бо самае халоднае паветра не выклікае хваробы без бактэрыяў. Іх-жа шмат у нашай душнай хаце, дзе ўсе плююць на падлогу — а часта ёсьць і хворыя. Гэтыя бактэрыі трэба выкідаць разам з пылам, ды брудам, мыючы часта хату, ды абмятаючы сьцены — потым адчыніць трэба вокны насьцеж, каб сонейка магло дарэшты зьнішчыць тых злыдняў, якія выклікаюць перадусім сухоты, так распаўсюджаныя ў нашай беднай старонцы. Сухот толькі лекарствам вылячыць нельга; апрача добрай ежы найлепшым доктарам ёсьць сонца, якое хворых лечыць, а здаровым дае адпорнасьць на хваробы.

Кідаю заклік усім: больш сонца! Не пагарджайце яго цёплымі, сьветлымі, залатымі праменьнямі, бо яны даюць здароўе і радасьць жыцьця.

**Прыхільніца.**

---

## Парадкаваньне і чысьціня хаты.

Дужа важна для здароўя чалавека чысьціня ў хаце і чысьціня цела. На жаль, у нас на Беларусі ёсьць шмат хат, гдзе пануе бруд.

Хату трэба бяліць часта, некалькі разоў у год: на Каляды, Вялікдзень, увосені, калі ўжо меньш мух, а калі немагчыма бяліць 3 разы ў год, то найменьш раз у год. Хата беляная гэта цацка — белая чыстая, больш сьвятла, паветра чыстае, бо вапна забівае шмат заразкаў і клапоў (блашчыц) прусакоў, выганяе з хаты тараканаў.

Трэба часта бяліць і чысьціць сьцены а таксама трэба часта, часьцей як бяліць, мыць і чысьціць падлогу, каб было менш блох, а калі яе няма, то (гліняную падлогу) трэба падмятаць, скрапіўшы яе вадой. Трэба мыць і чысьціць лаўкі, зэдлікі, ложка, каб не заводзіліся клапы (блашчыцы), начыньне. Трэба часта, 1 раз у тыдзень, найменш 2 разы ў месяц, мыць і чысьціць посьцілкі, пошаўкі, дываны, якімі засьцілаецца ложак.

Падушкі, пярыны, дываны, плахты, адзяг сьвяточны, якія ня можам мыць, часта правэтрываць, вынесьці на сонейка; але глядзіце гаспадыні, каб ня выблякавала, бо шкада,

папсуецца; хай паляжаць на сонцы 2—4 гадзіны. Калі-ж ня можна на сонцы, бо выблякуе, то палажыць гэтыя рэчы ў заценак—хай паляжаць, праветрываюцца 2—4 гадзіны.

Адным словам, трэба, бяліць, мыць, праветрываць, каб усё была чыстае, прыгожае, каб усё была ў парадку.

---

## Чысьціня цела.

Добрая гаспадыня дбае аб тым, каб усе хатнія кожную раніцу добра памыліся: добра чыста памылі абліча, рукі, вушы, шыю, дый глядзіць, каб усе мыліся мылам. Гаспадыня так сама глядзіць, каб і ў вечар усе добра вымыліся мылам: вымылі рукі, ногі, аблічча, шыю, каб ішлі спаць чыстыя, бо здорава ісьці спаць чыстым, а так сама, каб не папэцкалі пасьцельнай бялізны. У першы чарод павінны мыцца дзеці, якія ходзяць у школу.

Усе павінны перад кожнай ежай вымыць рукі, бо бруднымі рукамі есьць нездорава. Шмат хто скажа, што калі ёсьць польная праца, дык няма часу мыцца. Гэта няпраўда, была-бы ахвота, і пры найпільнейшай працы знойдзецца час: можна гэта зрабіць (гэта значыць памыцца) раненька раніцай ці позна ў вечар.

Дый яшчэ хоць раз або 2 разы ў тыдзень замяніць кашулю, сарочку, пасьцельную бялізну зьмяняць хоць раз у месяц, а лепш што 2 тыдні мяняць. Раз у тыдзень, у суботу, памыцца ў лазьні або нагрэць цёплай вады і ўсім хатнім памыцца цёплай вадой з мылам, каб лепш бруд і пот адыйшлі. Улетку, калі цела пры працы ад гарачыні пакрываецца потам з зямлёй і пылам, трэба часта купацца; добра купацца штодня. Яшчэ лепш купаючыся памыцца добра мылам, каб бруд і пот адыйшлі.

Бруд, пыл, нячыстае паветра страшэнна шкодзяць здароўю.

Памятайце, гаспадынькі, што ў добрай гаспадыні ўсе ў сямейцы і малыя і старыя і ўсё у хаце: сталы, услоны, лаўкі, ложка, пасьцелі, начыньня ўсё павінна зіхацець парадкам і чысьцінёю.

Як на панадворку пазнаецца добры гаспадар, гэтак па парадку і чысьціне ў хаце пазнаецца добрая гаспадыня.

**Сястрыца.**

14-VI-31.

Чэхаславацыя
Санаторыум Альбэрцінум
Mu. Dz. N. B.

# ПАРАДЫ ДЛЯ МАТАК.

## Што рабіць пры нястраўнасьці.

Калі дзіця дастае нястраўнасьці, гэта значыць у кале будзе сьлюз (зялёны) і гоніць дзіця часта на двор — (больш чым тры разы на пару) папрабуйце 6 гадзін ня даць дзіцяці есьці, а калі вельмі крычыць — даць пару лыжачак запаранага румянку, найлепш бяз цукру, а калі дзіця ня п'е, дадаць цукру але вельмі мала. Пасьля гэтага перарыву, даць грудзі, але ня многа, каб дзіця не аб'елася, бо яшчэ горш захварэе (перад кармленьнем сьцягнуўшы крыху малака).

Гэтакае лякарства часта дужа добра памагае.

У дзяцей, асабліва тых, якія маюць нядбалую матку, якая не глядзіць за чысьцінёю ў дзіцячай пасьцельцы і пялёнках, або калі матка вельмі баіцца холаду і ў цёплай хаце закручвае дзяцей, як на мароз — у такіх дзяцей часта прэе скура. Такая папрэлая скура вельмі баліць, асабліва, калі памачыць, дзіця тады крычыць колькі мае сілы і нічым ня можна яго ўняць. Каб гэтага ня было трэба перасыпаць дзіцяці пахвінкі, пад пахамі, шыйку і ўсе іншыя мейсцы, дзе дзіця прэе парашком, які трэба зрабіць у аптэцы паводле такога рацэпту:

Rp.
Zinci oxid. 20,0
Talci veneti 40,0
M. D. S. do przysypywań.

У нашых вёсках перасыпаюць дзяцей крахмалам, гэта зусім не памагае бядзе, а яшчэ яе пагаршае, бо крахмал яшчэ горш разгрызае скуру.

Калі скура так адапрэе што робяцца раны — то трэба гэтыя месцы пасмараваць масьцяй, зробленай у аптэцы такога рэцэпту:

Rp.
Zinci oxid. 20,0
Oli oliv. q. s.
ut. f. unguentum.

Наагул, каб дзіцяці скура ня надта прэла трэба купаць яго ў адвары з дубовай кары. Робіцца гэта так: набраць дубовай кары, ня вельмі старой, парэзаць дробна, высушыць і перад кожным купаньнем зрабіць адвар са жмені кары і абы якой коль-

касьці вады. Адвар гэты ўліць у ваду, у якой маем дзіця купаць. — Купаць такім чынам трэба пару дзён, з тыдзень, а калі папрэлыя месцы ня гояцца, то і даўжэй.

Гэтакае купаньне не зьяўляецца лякарствам на адапрэлую скуру, яно толькі ўзмацняе скуру і дзіця ня так лёгка прэе.

**Маці.**

## Выхаваньне дзіцяці.

Аж жудасна робіцца на душы, калі чуеш і бачыш сьлёзы матак, пакрыўджаных уласнымі дзяцьмі. Бо ці-ж можа быць большая крыўда? ціж можа быць мацнейшы боль?

— І за што мяне гэта спатыкае, пытаецца такая няшчасная маці. — Я-ж, здаецца, і не даспала і не даела, каб толькі маё дзіця мела ўсё, што яму трэба, яно і галоднае ня было і да працы цяжкай я яго не ганяла, а сягоньня, калі я ўжо старая, не магу рабіць, яно мяне з хаты выганяе, стравы шкадуе...

І кожны такой няшчаснай матцы спагадае, і кожны ганьбіць нядобрых дзяцей, а маладая матка, тулячы да грудзей маленькага сынка, ціха моліцца: Божачка, мой Божа, дай, каб мой гэтакім ня стаў. Баіцца яна цяжкай долі сваей суседкі і марыць аб тым, каб сынок быў добрым для яе, кахаючым ды дбалым... Толькі ці разумее яна тое, што галоўны фундамант пад сваё шчасьце павінна палажыць яна сама. — Зразумела, што дзіця, прыходзячы на сьвет, прыносіць з сабой добрыя або благія задаткі характару. Але-ж гэтыя задаткі такія слабенькія, што іх можна зусім лёгка пакіраваць у той ці іншы бок: благія можна паправіць, а добрыя праз неадпаведнае выхаваньне зьнішчыць, праз удалае выхаваньне ўзмацаваць.

І вось добрае, умелае ды стараннае выхоўваньне дзіцяці гэта і ёсьць будаваньне фундаманту пад сваё будучае шчасьце.

Хочучы мець дзіця *добрае*, трэба перадусім узгадоўваць яго *сэрца*. Трэба каб яно ўмела адчуваць чужы боль, чужую крыўду; каб яно патрапіла быць спагадлівым, ды справядлівым. Нялёгкая гэта праца, бо тут ня можна ніякага паступку дзіцяці лічыць дробным, малаважным, ня можна чакаць з накіроўваньнем дзіцяці на пажаданы шлях аж да нейкага вялікага здарэньня, а трэба выкарыстоўваць кожную хвіліну жыцьця і то ад самых маладых гадоў, каб давясьці яго да пажаданай мэты. Ня можна прапускаць бяз увагі ніводнага паступку дзіцяці, які даказывае яго жорсткасьць. Дзіця, якое патрапіць у часы свайго маленства абрываць мухам ногі ды крыльлі, ў пазьнейшыя гады вылупліваць мышам вочы, разбурваць птушкам гнезды, мучыць кацянят, біць сабак ды іншыя стварэньні, узгадуе ў сабе такую жорсткасьць, так прывыкне глядзець ня толькі раўнадушна, але нават з прыемнасьцю на чужы боль і крыўду, што ў дарослыя гады нават забойства чалавека ня зробіць на ім уражаньня. — Ці можна спадзявацца, што гэтакі жорсткі чалавек, „бяз сэрца“ — як кажуць, зразумее боль маткі, ім самім пакрыўджанай?

Калі матка хоча дачакацца пашаны ды апекі, яна павінна ад першых гадоў жыцьця свайго дзіцяці вучыць яго любіць усё жывое, сьцерагчыся рабіць крыўду самаму дробнаму стварэньню, бараніць кацянятка, замучанае таварышамі, пашкадаваць птушку ды ня рухаць яе гнязьдзечка, ласкава адносіцца да каня і каровы, гэтых таварышаў працы чалавека, а галоўнае помніць, што ня столькі можна навучыць дзіця словам, просьбай ці грозьбай, як жывым прыкладам.

**П. Войцікава.**

*Маці, дапільнуй, каб твае дзеці умелі чытаць і пісаць пабеларуску!*

# ДА НАС ПІШУЦЬ.

## Маткі сьцеражэце сваіх дачок.

Надта часта дзяўчына як падрасьце да гадоў 15—16, ужо ёй хочацца адзецца ў крамную вопратку, якую яна сваім цзіцячым розумам лічыць вельмі прыгожаю, у туфылькі і тоненькія панчошкі, каб выглядаць, як „пані“. І з ведама маткі, а часам і бяз ведама, едзе такое яшчэ дзіцянё ў горад да няведамых людзёў іншае веры і іншае нацыянальнасьці, якія глядзяць на яе, як на рабочую сілу, а яе душа, яе жыцьцё іх зусім ня цікавяць. І пападае гэтакае дзіцянё ў вір жыцьцёвага бруду і агіды. Прынаджваюць яе маладую бліскучыя цацкі так, што аж у галаве круціцца і, забыўшы аб гонары, чэсьці і здароўі і аб тым, што будзе далей, занураецца яна ўва ўсёй гэтай агідзе. Падмане яе салдат, прысланы Бог ведае адкуль, ці іншы чужынец, які ніколі не ажэніцца з нашаю беднаю дзяўчынаю, бо яна заўсёды ў яго́ным паняцьці на жонку будзе „хамка“. Бо-ж такі чалавек, які

адважыўся скарыстаць з яе дзіцячага даверра, ніколі з ёй не ажэніцца — ён пашукае сабе іншае, якая мае шмат грошаў ці зямлі і да якое ня прыстаў яшчэ жыцьцёвы бруд. А калі-ж бывае і ажэніцца, дык такая жанчына будзе мець на сьнеданьне, абед і вячэру дакоры, кім яна была і якою ён яе ўзяў.

І так за бліскучую брошку, лякераваныя туфлікі ці сукенку з штучнага шоўку прадае дзяўчына ўсё, што мае найдаражэйшае, гэта чэсьць, здароўе і свабоду. Канчаецца-ж гэта найчасьцей тым, што дзяўчына вяртаецца да маткі, але ўжо не адна, а з дзіцём, якое пакідае матцы ці аддае гадаваць у чужыя рукі, а сама едзе ізноў у горад, у тое-ж жыцьцё, толькі цяпер трэба адзець і пракарміць не сябе адну, але і дзіцянё. Атрымоўваючы-ж 10—15 ці нават 20 злотых, трэба нечалавечых высілкаў, каб выпаўніць той абавязак, які накладае на яе роля маткі, дык канчаецца дарэшты зьнішчаным здароўем, а часам і вязьніцаю.

Калі ўжо і змусіць нас неабходнасьць ісьці служыць у чужыя людзі, дык заўсёды трэба шукаць службы праз добрых знаёмых, заслугоўваючых на даверра, а ня ехаць у горад да няведамай фактаркі і бадзяцца там тыднямі чакаючы на службу і ў канцы канцоў папасьці туды, адкуль выбрацца трудна.

Усяму-ж віною гэтыя бліскучыя цацкі. Авось лепш было-б, каб гаспадарская дзяўчына не заглядалася на чужынцаў, а разам з маткаю працавала-б на гаспадарцы, гадавала-б курэй, сьвіней. Засадзіла-б, як радзяць „Бабулька" і „Гаспадыня" у „Жаноцкай Справе" суніцы, парэчкі, з якіх праз пару гадоў мела-б даход на неабходныя рэчы. Сеяла-б лён, прала, ткала, шыла і вышывала, адзявалася-б у сваю нацыянальную вопратку, якую насіла яе бабка. У вольную-ж хвіліну чытала-б беларускую кніжку, часапісь, газэту і, памятаючы, што яна дачка 12-ці міліённага беларускага народу, аддавала-б вольную часіну на грамадзкую працу дзеля карысьці сваёй Бацькаўшчыны.

Вырасшы-ж пад вокам маткі, як кветка прыгожая і здаровая, вышла-б замуж за роўнага сабе суседа-беларуса з гэтай самай ці іншай вёскі, які будзе ўсё жыцьцё яе паважаць і шанаваць.

**Юля Антанавічанка.**

# Ці варта шыць і вышываць.

У папярэднім нумары нашае часопісі мы гутарылі, з чаго і як сшыць і вышыць блюзку — быў дадзены малюнак, а нават і выкрайка. Ня ведаю толькі, ці скарыстана з маёй парады.

Цяпер-жа хачу выказаць свае думкі пра нацыянальную вопратку.

Нацыянальную вопратку павінна мець кожная беларуская жанчына бяз розьніцы веку. Ці прыгожа выглядаюць дзяўчаты і маладзіцы ў сваёй нацыянальнай вопратцы — гаварыць ня прыходзіцца. Прадставім толькі сабе вось цяпер летам у нядзельку, калі зьбярэцца дзе-небудзь каля лесу ці ў садочку каля хаты моладзь, і ўсе апранены ў нацыянальныя вопраткі скачуць „лявоніху". Усе маюць ружовыя, вясёлыя твары, як пэрлы зубы, а вочы гараць і блішчаць, як пацеркі. Дзяўчаты выглядаюць, як кветкі і, толькі закручываючыяся ў скоках, іх белыя хвартушкі калі-не-калі падлятаюць у гару, як скрыдлачкі беленькага мятліка. Здаецца і сонейка ў захопленьні распусьціла свае залатыя косы і сьвеціць ярчэй, каб лепш увыдатніць гэтае харawство. А калі прадставім той самы малюнак, калі ўсе жанчыны апранены ў звычайныя сукенкі, дык хоць штучны шоўк і блішчыць на сукенцы, галава абстрыжаная па модзе, у ўшох кольчыкі з каляровымі шкламі, аднак, жанчыны выглядаюць так звычайна, што не адрознім іх ад першае лепшае жыхаркі мястэчка.

Калі возьмем нават старэнькую бабульку з паморшчаным ад пражытых гадоў тварам, адзетую ў сваю нацыянальную вопратку, дык і яна, здаецца, прыямнейшай, мілейшай сэрцу і паняволі ляціш думкаю ў яе мінулае. А да гэтага наша нацыянальная вопратка, гэта наша багацьце, гэта наша спадчына, якой ня здолелі зьнішчыць чужынцы — ворагі ўсяго беларускага. Дык ня даймася на загладу, захавайма сваю мову і вопратку, гэта наша роднае, наша ўласнае. Не сароміцца павінны мы свае мовы і вопраткі (як гэта часта бывае з несьвядомымі), а гардзіцца, што мы столькі выцярпелі, столькі церпім, а ўсё-ж такі мы беларусы ёсьць і будзем — „Загляне сонца і ў наша ваконца".

*Даем тут два малюнкі нацыянальных* касьцюмаў: адзін з пад Слуцку (цяпер у Савецкай Беларусі), — другі з Пружаншчыны (*Палесьсе*) *і пастараемся апісаць іх выгляд* і з чаго яны зроблены, хоць гэта і даволі

трудна, бо-ж ня ўсюды касьцюмы зусім аднолькавыя.

Напрыклад, касьцюмы Случчыны, Магілёўшчыны, Наваградчыны, Пружаншчыны і г. д. маюць свае асаблівасьці, але агульны выгляд іх і характар аднолькавы. Усюды кашуля натканая ці вышытая, ня крыжыкамі, а плоскім швом; гарсэцік доўгі ці кароткі, хвартушок і пацеркі, ці як іх у некатарых мясцох называюць каралі; усюды пераплятаюцца колеры чырвоны і белы. Усюды натыкаюць і нашываюць кашулі і хвартухі чырвонымі ніткамі на белым хатнім палатне, і толькі дзе-нядзе можна ўбачыць тоненькі шнурочак з жоўтых ці чырвоных нітак.



Касьцюм з Случчыны.

Дык пачнем з касьцюму Случчыны. Кашуля (блюзка), якую носяць у Случчыне, амаль і ўсюды такая самая. Зроблена яна з белага тонкага хатняга палатна з разрэзам сьпераду амаль да паясьніцы. Рукавы і плячукі каля таго месца, дзе ўшываецца рукаў натканыя ці нашытыя, як відаць на нашым малюнку. Рукавы шырокія, зморшчаныя пры руцэ і ўшытыя ў манкет або заложаныя ў маленькія закладачкі, а пры руцэ заканчываюцца як-бы вузенькаю сплісованаю хвальбонкаю. Рукавы зашпіліваюцца на каляровы гузік. Кашуля ля шыі крыху зморшчаная і ўшытая ў адкладаны каўнерык, цесна зашпілены ля шыі на такі-ж каляровы гузік, як і рукаў. Можна так сама закончыць кашулю ля шыі вузкім стаячым каўнером, да якога прышываецца сплісованая хвальбонка такой самай шырыні, як на рукавох. Гэтую хвальбонку можна так сама зрабіць з анталяжаў (карункаў). Гарсэцік касьцюму з Случчыны зроблены з шоўкавае бліскучае матэрыі ці ваўнянай у вялікія кветкі. Робіцца ён доўгі, цэнтымэтраў 25 ніжэй паясьніцы. Сьпераду гарсэцік зашпіляецца на гаплікі так, каб іх ня было відаць. Ззаду, пасярэдзіне ўніз ад паясьніцы, робіцца разрэз і даштукоўваецца да разрэзанага месца на абапал па кліночку. Гэтыя кліночкі закрываюць разрэз і заходзяць адзін на адзін. Швы з бакоў ад пахі зашываюцца толькі да паясьніцы, а далей застаюцца не зашытымі. Гарсэцік робіцца звычайна на палатнянай тонкай падшэўцы, каб быў мацнейшы і каб лепш аблягаў стан. Спадніца павінна быць тканая — хварбованая воўна з льном ці з бавоўнаю з шлякам, які пачынаецца над каленямі і не даходзіць да нізу на 10 цэнтымэтраў.

Калі-ж спадніца крамная, то замест тканага шляку нашываюцца каляровыя ўстужачкі ці тасемачкі ў некалькі радоў.

Прыгожа, калі спадніца сплісаваная, гэта значыць зложаная ў хвалдачкі і запрасаваная, каб выглядала, як гармонік. Хвартушок робіцца з белага палатна, натканы ці нашыты, абшыты антуляжамі (карункамі) і гэтак сама, як спадніца заплісаваны ў дробненькія хвалдачкі.

Калі спадніца цёмная, то хвартух робіцца белы, калі-ж спадніца сьветлая, то хвартух робіцца цёмны. Да ўсяго гэтага адзяваюцца на шыю пацеркі. Пераважвае колер чырвоны. Могуць быць залатыя і срэбрныя. Усіх шнуркоў пацерак можа быць ад шасьці да дванаццаці. На галаву да гэтага касьцюму можна завязаць хустку вялікую ў кветкі (шаліноўку) або малую так сама ў кветкі і завязаць кругом галавы ззаду. На валасы над лобам можна налажыць нацыянальную ўстужку і завязаць яе ззаду.



Касьцюм з Пружаншчыны.

Касьцюм з Пружаншчыны. Кашуля шыецца так сама, як і ў касьцюмах Случчыны. Толькі яшчэ вышываецца кашуля сьпераду, як відаць на малюнку. Каўнер робіцца стаячы. Гарсэцік мае крой такі самы, як у Случ



Гарсэцік ад касьцюму з Пружаншчыны.

чыне з прарэхамі ззаду і з бокоў толькі наагул крыху карацейшы. Пярод-жа яго на 2 цэнтымэтры карацейшы, чым зад. Сьпераду гарсэцік зашнураваны тасемкаю ці ўстужкаю, якая зацягваецца ў петлі адумыслова зробленыя з тоўстых нітак ці ў петлі ад гаплюкоў, як гэта бачым на нашым малюнку.

Гарсэцікі робяць і кароткія толькі да паясьніцы. Закончваюцца ля паясьніцы хвальбонкаю шырынёю ў 8 цэнтымэтраў, заложанаю ў закладачкі (сплісованаю), якая ня зыходзіцца сьпераду на 20 цэнтымэтраў. Хвальбонку і гарсэцік абшываюць вузкай на паўцэнтымэтра каляроваю ўстужачкаю. Такі гарсэцік можа быць зашпілены ў адзін рад каляровых гузікаў або зашнураваны каляроваю ўстужачкаю. І ў Случчыне носяць такія самыя кароткія гарсэцікі, толькі зашпіленыя, але не шнурованыя.

Аб тым, як шыць кашулю да нацыянальнага касьцюму, гаварыць ня буду, бо кожная бабулька вам гэта пакажа. Скажу толькі, што ня варта яе шыць доўгаю, а такою, каб замяніла сабою блюзку. Калі шыць кашулю кароткай да пояса, дык трэба ўшыць яе ў пасак, каб ня высоўвалася з пад пояса спадніцы.

Пакуль што на гэтым і канчаем сваю гутарку, а ў наступным нумары падамо апісаньне і выкрайку звычайнай спадніцы. Калі каторая з падпішчыц захоча мець выкрайку гарсэціка, можа зьвярнуцца ў рэдакцыю „Ж. С.“, выкрайка будзе выслана.

Узоры для вышываньня ці натыканьня на кашулях і хвартухох для нацыянальных касьцюмаў трэба браць чыста беларускага характару, гэта значыць, з старых кашуль, ці нават ручнікоў, якія напэўна захаваліся ў кожнай беларускай сям'і.

**Цётка Тоня.**

# ГАСПАДАРЧЫЯ ПАРАДЫ.

## Як выгадаваць расаду памідораў.

(Працяг).

Пасьля 28 траўня (мая) можна ўжо высажваць расаду памідораў на градкі — ужо павінны прайсьці апошнія марозы. Трэба аднак уважаць, каб пачаліся цёплыя ночы, бо з прыродаю малыя жарты. Яна можа неўспадзеўкі няміласэрна памарозіць расаду. Высажваць расаду трэба ад 28 траўня (мая) да 5-га чэрвеня. Памідоры патрабуюць ад трох да чатырох месяцаў пакуль вырастуць. Месяц жнівень рашае аб іх узросьце і дасьпяваньні — калі ён цёплы, дык памідоры пасьпеюць вырасьці добра і будуць хутчэй дасьпяваць, — калі-ж халодны, дык дасьпяваньне іх спозьненае і прыходзіцца памідоры зьнімаць з кусьцікаў, як толькі пойдуць дажджы і халодныя ночы, зялёнымі і перахоўваць у хаце ці пад страхою з сонечнага цёплага боку, каб хутчэй дасьпелі. Перад высажваньнем расады, трэба парабіць ямкі вялічынёю з талерку, а глыбінёю на пядзю ў адлегласьці адна ад адней на аршын. Палажыць у іх гною і перамяшаць добра з зямлёю. Пясярэдзіне ямкі ўсадзіць калочак даўжынёю прыблізна з мэтр і каля яго пасадзіць расьлінку памідора, прывязаўшы яе да калочка мягкаю ганучкаю. Пасадзіўшы трэба, зараз-жа падліць. Падліваць трэба памідоры часта, тагды яны добра растуць. Надта добра паліваць памідоры гнаёўкаю, гэта значыць, гноем, разьведзеным з вадою ці быдлячым мочам, толькі яго абавязкава трэба разьвесьці з вадою — на вядро вады ўзяць мочу быдлячага тры літры. Памідоры будуць расьці што раз выжэй і выжэй і выпускаць шмат адросткаў.

З гэтых усіх адросткаў заставіць толькі два і то самых першых і самых сільных з нізу, якія трэба з самага нізу прывязаць да калочкаў. Рэшту-ж адросткаў зрэзваць не шкадуючы, бо яны будуць цягнуць толькі сокі і зацяняць памідоры, ня дапускаючы да іх сонца, а карысьці ніякае не дадуць. Па меры ўзросту расьліны памідораў, трэба іх што раз выжэй прывязваць да калочкаў. Калі на галоўнай расьліне будзе ўжо тры-чатыра букеты кветак, а на адростках па два букеты, трэба пазрэзваць вярхі на галоўнай расьліне і на адростках. Лісты прырэзаць, а ў некатарых мясцох зусім зрэзаць, каб не перашкаджалі доступу сонца. Зрэзваньне адросткаў і лістоў трэба паўтараць некалькі разоў на лета, як толькі стануць даваць цень букетам памідораў. Паліваць трэба часта, як толькі пад кусьцікам будзе суха.

**Бабулька.**

## Як і што варыць.

*Крупнік на шэсьць асобаў.*

Трэба: 1 кілё мяса, адзін ліст бабковы, адна маркоўка, адна пятрушка, 1 цыбуля, 4 бобачкі перцу горкага, $^{3}/_{4}$ шклянкі круп ячменных ці парловых і 20 штук бульбы, солі па смаку. Мяса можа быць ялавічае, бараніна,

сьвініна. Мяса добра вымыць, калі пры шкурцы дык і выскрабсьці добра, наліць вады па 2½ шклянкі на чалавека, паставіць, няхай загатуецца. Усыпаць солі па смаку, усыпаць перамытыя крупы, ачышчаную і парэзаную маркоўку, цыбульку, пятрушку і паставіць, каб гатавалася на павольным агні. Калі ўжо пагатуецца гадзіны дзьве, трэба ўкінуць парэзаную бульбу ў кружкі. Калі бульба зварыцца, крупнік гатоў. Можна гэткі крупнік варыць з салам бяз мяса. Сала расшкварыць з цыбулькаю і ўкінуць тагды, як кідаюцца ўсе прыправы.

*Крупнік посны.*

Крупнік посны варыцца так сама, як і з мясам, толькі замест мяса трэба ўкінуць 10—12 добра вымытых сухіх грыбкоў і заправіць алеем, падсмажаным з цыбулькаю. Гэты-ж крупнік можна забяліць сьмятанаю, але тагды ўжо ня трэба алею.

Падсмажваючы цыбулю з салам ці алеем, трэба добра пільнаваць, каб цыбуля не згарэла.

*Крупнічак для хворых (клеік).*

Трэба: дзьве з палавінаю шклянкі вады, поўшклянкі круп парловых ці ячменных, паўлыжкі масла і крыху солі па смаку. Крупы добра перамыць, укінуць у ваду, адначасна-ж палажыць масла, соль і паставіць, каб гатавалася, на вольным агні паўтары гадзіны. Часта мяшаць, каб не прыгарэла. Калі крупы гатовы, трэба іх добра расьцерці і, калі доктар забараняе есьці з крупамі, дык працадзіць праз чыстае сіта.

*Журок для хворых.*

Трэба: вады 1 з паловай шклянкі, журавін паўшклянкі, дзьве лыжкі цукру і лыжку картафлянае мукі. Журавіны перамыць, укінуць у ваду і паставіць на агонь. Як загатуюцца, адставіць, паціскаць лыжкаю ў вадзе журавіны і працадзіць гэта праз чыстае сіта. Адліць ад гэтага паўшклянкі, а рэшту, усыпаўшы цукер і калі ёсьць дык дадаць кавалачак цынамону, або цытрыновае шкуркі, паставіць на агонь, каб загатавалася ізноў. Цяпер у адлітую паўшклянку вады з журавінамі ўсыпаць лыжку картафлянае мукі, добра разьмяшаць і хуценька ўліць у ваду з журавінамі і цукрам, мяшаць добра, каб не рабіліся клёцкі. Паставіць, каб ізноў загатавалася. Як загатуецца, журок ужо гатовы; як крыху астыгне, даваць есьці.

## Халаднік.

Надыходзіць гарачая пара, дык добра страву гарачую замяніць на халодную, а дзеля таго і падаём, як робіцца халаднік.

Да халадніку на шэсьць асобаў трэба: кіслага малака з сьмятанаю тры літры; адзін бурачок чырвоны, або жменя бацьвіньня; шчаўя дзьве жмені; цыбулі зялёнае дзьве жмені; два гуркі (калі ёсьць); крыху кропу, солі і квасу па смаку.

Шчаўя перабраць, перамыць добра і ўкінуць у вар, каб зварылася. Зваранае шчаўе адцадзіць на сіта ці друшляк, як добра сьцячэ палажыць у міску і пасекчы яго бляшанаю лыжкаю перавярнуўшы яе бокам. Зварыць бурак, парэзаць яго дробна і ўкінуць у шчаўе, калі ўжо ёсьць бацьвіньне, наламаць яго жменю, абшморгаць лісьцё і выкінуць, а цырбуны парэзаць дробненька і ўліўшы крыху квасу — зварыць, астудзіць і ўліць замест бурака ў пасечанае шчаўе. Жменю зялёнае цыбулі і крыху зялёнага кропу парэзаць дробна і ўкінуць у шчаўе з буракамі. Гуркі ачысьціць, парэзаць дробна і таксама ўкінуць у шчаўе; усё гэта пасаліць і добра перамяшаць. Кіслае малако добра разбаўтаць лыжкаю і ўліць у шчаўе, буракі і г. д. Усё гэта добра перамяшаць. У такі халаднік можна ўкінуць два ці тры моцна звараныя і дробна пакрышаныя яйкі. Халаднік можна есьці з хлебам ці варанаю бульбаю.

## Як пячы пірагі (булкі).

Трэба: тры з палавінаю кілё добрае сухое мукі (трохнулёўкі), 10 дэка добрых сьвежых дрожджаў, 10 яек, адну шклянку цукру, адну шклянку масла, тры з палавінаю шклянкі малака, поўную гарбатную лыжачку солі, поў стручка ванілі (прадаецца ў крамах цэлымі больш менш аднолькавымі стручкамі). Замест ванілі можна палажыць палавіну мускатнага гарэху — дзеля паху. Можна палажыць і ваніль і мускатны гарэх; пяць дэка радзынак.

Загатаваць адзін літр малака. Адліць з яго тры шклянкі. Прасеяць тры шклянкі сухое мукі ў начоўкі, гаршчок, міску, залежыць ад таго, у чым будзем рабіць цеста. Муку заліць адлітымі трыма шклянкамі цёплага малака, усыпаць гарбатную лыжачку солі, добра расціраючы муку малаком, каб ня было клёцак. Уліць разьмешаныя добра ў астыўшымся гатаваным малацэ 10 дэка дрожджаў і яшчэ раз добра вымяшаць, прыцярушыць зьверху мукою, прыкрыць *чыстым* абрусом і паставіць у цёплым (не гарачым) месцы, каб паднялося (падыйшло).

Адну шклянку цукру (калі хто любіць салодкія, дык і дзьве шклянкі) разьбіць

(разьмяшаць) з 10 яйкамі (разам бялок і жаўток). Калі ўжо цеста падымецца і верхні слой пакрыты мукою будзе патрэсканы, уліць яйкі з цукрам, усыпаць ваніль ці мускатны гарэх добра патоўчаны, усыпаць рэшту мукі і мясіць. Як добра перамяшаецца мука і ня будзе пападацца сухая, уліць адну шклянку растопленага масла. Масла ўліваць не адразу, а па крысе і ўвесь час мясіць. Ад таго ці добра вымешана цеста, залежыць пухкасьць і смак булкі. Мясіць трэба амаль што гадзіну, а ў самым канцы, калі ўжо цеста пачне адставаць ад рук, укінуць перамытыя і перабраныя, каб ня было хвосьцікаў, радзынкі. Яшчэ трохі памясіць, каб радзынкі роўна разьмяшаліся па цесьце. Пашмараваць руку маслам і ёю зьверху пагладзіць цеста, каб яно не засохла. Прыкрыць цеста і паставіць у цёплым месцы, каб ізноў падыходзіла. Калі цеста падыйдзе добра, зьверху будуць прасьвечвацца як бы пухірчыкі, трэба парабіць булкі і палажыць на бляхі, пашмараваныя тлушчам і пасыпаныя мукою, і паставіць булкі трэці раз, каб падыйшлі. Рабіць булкі трэба, як разгарацца дровы ў печы. Пакуль дровы выгараць, да канца, дык булкі на бляхах падыдуць і можна іх саджаць у печ. Перад тым, як саджаць булкі ў печ, трэба іх пашмараваць разьбітым з лыжкаю вады яйком ці салодкаю вадою, каб лепш румяніліся. Паставіць у печ прыблізна на гадзіну. Каб даведацца ці булка гатовая, пробуецца так: узяць чыстую саломінку і праткнуць ёю булку. Калі выняўшы, саломінка будзе сухая, ня прыліпне да яе цеста, дык булка гатовая. Печ мусіць быць менш гарачая чым на хлеб. Гарачыня печы прабуецца так: калі печ ужо вымецена, узяць крыху ў жменю жытняе мукі ці атрубоў, сыпнуць на чарэн. Калі мука не гарыць а толькі жаўцее паволі, можна садзіць булкі.

УВАГА: Каб добра стаўчы ваніль, трэба яе дробненька парэзаць, усыпаць лыжку цукру і разам з цукрам патаўчы.

---

*Булкі посныя.*

Булкі посныя робяцца так сама, як вышэйказаныя толькі з розьніцаю, што замест літра малака ўліць пяць шклянак вады. Замест масла поў шклянкі алівы. Замест 10 дэка дрожджаў даволі будзе 8 дэка. Яек, цукру і паху зусім ня трэба. Нават можна і алівы ня ліць.

УВАГА: Калі мука вельмі сухая, дык у булкі скаромныя трэба дадаць больш малака, чым вышэй сказана, а ў булкі посныя больш вады.

# РОЗНАЕ.

## Крыху аб кветках.

Прадстаўце сабе хату з маленькімі ваконцамі, з пахіленай страхой. Навакол яе брудны панадворак. Тут ляжаць параскіданыя каменьні, там — трэскі ад дроў, яшчэ далей натрэсена саломы. Перад вокнамі на плоце панавешаны брудныя ганучы, а тутжа побач вісяць збанкі да малака. А калі яшчэ дадамо да гэтага абразка пахмурны, бяз сонца дзень — дык як тады можна ўявіць сабе жыцьцё жыхара такое хаты. Цяжка на душы робіцца таму, хто зойдзе на гэтакі панадворак, але і не лягчэй і таму, хто зжыўся з ім здаўна.

Ці ня можна, аднак, зрабіць так, каб жыцьцё ў такой сумнай хатцы хоць крыху было прыямнейшым. Можна, ды і яшчэ як. Толькі трэба прылажыць крыху стараньня, крыху добрай волі.

Надышла вясна. Сьнегу ўжо даўно няма, зямля высахла і пара пачынаць працу. Перад усім трэба пазьбіраць непатрэбныя каменьні, трэскі, салому, вымесьці чыста панадворак. Брудныя ганучы з плоту паздымаць, перамыць ды схаваць у якую-небудзь скрыначку. Чыста на панадворку, — прыямней для вока. Цяпер агледзімся добра, а можа дзе пад ваконцам ёсьць кавалачак зямлі. Калі такі знойдзем, дык трэба з яго зрабіць якінебудзь пажытак.

Усім ведама, што кветкі дадаюць шмат хараства.

Дык можа на гэтым кавалачку зямлі варта было-б пасадзіць кветак?

Пэўна што так.

Дзеля таго, каб цяляты і каровы не пааб'ядалі-б нашых кветак улетку, возьмем ды абгародзім нявысокім плоцікам гэты кавалачак зямлі.

Далей прыступім да капаньня градак. Плян градак уложыць кожная гаспадыня сама.

Пад кветкі, якія любяць надта тучную зямлю, трэба гною, як напрыклад, пад ёргіню. Наагул пад кожныя кветкі крыху гною не зашкодзіць.

Што датычыць таго, якія кветкі трэба садзіць, скажу, што кожная гаспадыня пад свой смак хай падбярэ.

Добра выглядаюць ёргіні і мальвы розных колераў, астры, паўзучы гарох, настурцыі. Наагул кветак ёсьць так шмат, што іх доўга

трэба пералічаць, але ведама, садзіць трэба тое, што можна дастаць.

Напрыклад, Мацьвійку. Кветкі гэта дробненькія і ўдзень на выгляд не прадстаўляюць нічога цікавага, бо кожная яе паасобная кветачка ўдзень стуліваецца, але затое як прыйдзе вечар, кветкі расчыняюцца і пачынае разыходзіцца вельмі прыемны пах аж да самай раніцы...

Добра было-б, аднак, больш пасадзіць кветак зімовых, як: півоня, флёксы, (лілёвыя флёксы называюць у нас „доля“) і іншыя кветкі зімовыя менш патрабуюць дагляду і з імі наагул менш клопату, бо некаторыя з іх могуць сядзець на адным месцы шмат гадоў. І вось, улетку, калі кветкі зацьвітуць, ці-ж ня будуць яны песьціць вока жыхароў беднай хаты? А калі каля кветак гаспадар зробіць лавачку, ці-ж ня з прыемнасьцю прыдзе ён адпачыць у нядзельку сярод пахучых кветак, пасьля працы, „натрудзіўшы добра рукі, натаміўшы плечы“, як кажа наш вялікі паэт Якуб Колас.

Прыходзіць сьвята. У хаце прыбрана, стол засьцелены белым абрусам, а на тым стале стаіць букет кветак.

Скуль яны, гэтыя кветкі?

— А гэта, бачыце, сама садзіла і гадавала, з гордасьцю адкажа кожная гаспадыня.

**Маладзіца.**

## Як карміць малыя кураняты.

Як толькі вылупіцца куранё з яйка, трэба ўзяць яго з-пад курыцы і палажыць у гаршчок ці кош, высланы ганучкаю і напоўнены пёрамі. Зьверху накрыць ганучкаю, застаўляючы дзірку, каб праходзіла паветра. Пачынаць карміць кураняты трэба не раней, як праз 36—40 гадзін ад хвіліны вылупленьня з яйка. Першая ежа куранятам гэта сырок, зроблены такім спосабам: Разьбіць яйко, разбаўтаць добра і ўліць у яго паўшклянкі салодкага малака, паставіць у гарачую печку, каб згусьцела, пасьля выняць з печы, астудзіць і зьліць сыроватку. Стаўчы дробненька кавалак сухое булкі, зьмяшаць з гэтым тваражком і даваць куранятам у працягу некалькіх дзён. Яйка крута зваранага, як гэта часта робяць, даваць ня можна, бо жываткі куранят спачатку вельмі слабенькія і гэта ім шкодзіць. Пасьля сырку даваць намочаныя дробныя ячменныя крупы. Кураняты трэба выносіць на сонейка і зялёную траўку, якую яны ахвотна ядуць і якая ім патрэбная для разьвіцьця іх маленькіх арганізмаў.

## Як вывясьці вошы і гніды.

Дарослыя, а асабліва дзеці павінны часаць галаву рэдкім, а таксама і густым грэбянём, каб не заводзіліся вошы. Калі вошы ўжо ёсьць, то трэба іх абавязкава вывясьці. Гэта робіцца так: у вечар намазаць галаву газай (карасінай) і глядзець каб у вочы не папала ці зрабіць мешаніну газы з алеем і ею намазаць галаву. Завязаць галаву старым ручнікам; хай будзе галава гэтак завязаная цэлую ноч. Раніцай добра вымыць галаву цёплай вадой з мылам.

Калі вошаў шмат, то можа стацца, што за першым разам ня ўсе вошы вывядуцца, тады трэба паўтарыць мазаньне ізноў.

Калі ёсьць гніды, то можна іх вывесьці гэтак: трэба памазаць галаву воцтам і яшчэ мокрую часаць густым грэбянём.

## Аб прасаваньні.

Прасуюць наагул або на стале, або на дошцы. Некаторыя рэчы, як напр., сукенкі, спадніцы, мужчынскія кашулі, лепш прасаваць на дошцы.

Дошку трэба выбіраць у $1\,{}^{1}/_{2}$ мэтра даўжыні і ў ${}^{1}/_{2}$ мэтра шырыні. Калі прыгатуем стол або дошку, накрыем яго мягкай хусткай або кавалкам тоўстага сукна, а па гэтым яшчэ чыстым кавалкам палатна, тады можам пачынаць работу. Кош з бялізнай ставім з левага боку, каб выгадней было яе даставаць, а падстаўку ад жалезка — з правага. Перад тым як пачаць прасаваць, трэба выцерці добра жалезка, каб ім ня было іржы.

Бялізну прасуем з правага боку, каб набрала бліскучасьці, наадварот сукенкі і наагул верхнюю вопратку прасуем з левага боку. Прасаваць пачынаем ад швоў, закладак і рукавоў, а канчаем на вялікіх кавалках. Жалезка трэба цягнуць уздоўж нітак, а ня ўпоперак, каб не расьцягіваць матар'ялу. Таксама ня трэба моцна націскаць гарачага жалезка, бо ад гэтага робяцца на матар'яле знакі, якія пасьля толькі з вялікімі высілкамі можна будзе запрасаваць.

Часамі бывае, што бялізна зажаўцеець ад жалезка, тады трэба тое месца пацёрці мокрай анучкай. Пры прасаваньні трэба ўважаць, каб жалезка ня быў загарачае, каб не папаліла бялізны.

# ХРОНІКА

— **Агульны Сход Беларускага Дабрадзейнага Т-ва.** У нядзелю 3-га траўня б. г. адбыўся агульны гадавы сход сяброў Беларускага Дабрадзейнага Т-ва пад старшынствам грам. А. Луцкевіча. Даклад аб дзейнасьці ўраду Т-ва зрабіла грам. А Быхаўцава, у якім вельмі яскрава выявіла актыўнасьць у працы Т-ва ў мінулым 1930-31 годзе. Асабліва заслугоўвае ўвагі ўпарадкаваньне вучнёўскага інтэрнату. Пасьля дакладу скарбніка, паасобных сяброў ураду і рэвізійнае камісіі, сход удзяліў абсолюторыюм уступаючаму прэзыдыюму.

Зацьвярдзіўшы бюджэт на наступны год, сход выбраў новы ўрад у наступным складзе: грам. А. Быхаўцава, А. Сакалова, Н. Шнаркев чыха, Р. Астроўскі і М. Сіняўскі.

Кандыдатамі: А. Міхалевіч і В. Грышкевіч. У склад рэвізійнае камісіі ўвайшлі: А. Стракоўскі, Ант. Трэпка і Н. Лукашэвічыха. Кандыдаты — М. Ільляшэвіч, Кэпель і Душкевічыха.

Сход пастанавіў мандаты прадстаўнікоў у „Цэнтрасаюз“ лічыць вычарпанымі і выбраў новых прадстаўнікоў. Гэтак гр. Акінчыц у склад Цэнтрасаюзу надалей не ўваходзіць.

Удзел у сходзе ўзяла вельмі значная частка сяброў Т-ва.

— **Справа Бран. Тарашкевіча.** Мясцовыя газэты даведаліся, быццам справа былага правадыра Грамады Бр. Тарашкевіча мае разглядацца ў Віленскім Акружным Судзе ў канцы чэрвеня б. г.

— **Беларускае Выдавецкае Таварыства** выдала паштовыя адкрыткі з партрэтам „Цёткі“. Партрэт зроблены літоўскім мастаком Варпасам. Выкананьне вельмі мастацкае. Адна адкрытка каштуе 30 грошаў. Купіць можна ў кнігарні Беларускага Выдавецкага Таварыства — Вільня, Вастрабрамская вуліца № 1.

— **Паведамляецца,** што сядзіба Ўраду Аб'яднаньня Беларускіх Жанчын імя „Цёткі“, а таксама рэдакцыі і адміністрацыі часопісаў „Жаноцкая Справа“ і „Заранка“, якія месьціліся пры Віленскай вул. № 8 — 3, перанесены на вуліцу Карльсбадзкую 33/42.

— **У аднаднёўцы „Беларуская Праўда“** сказана аб заснаваньні ў Вільні новае арганізацыі пад назовам „Аб'яднаньня“. Зазначаем, што Аб'яднаньне Беларускіх Жанчын імя „Цёткі“ нічога супольнага з новапаўстаўшай арганізацыяй ня мае.

— **„Бібліотэка Школьніка“.** Вышла з друку новая дзіцячая кніжка з сэрыі „Бібліотэка школьніка“ пад назовам „Лясныя хаткі“. Кніжка вельмі цікавая па зьместу і мае вельмі багатыя ілюстрацыі. Каштуе 30 грош. без перасылкі. Перасылка аднае кніжкі будзе каштаваць 10 гр.

Купіць можна ў Вільні ў кнігарні Беларускага Выдавецкага Таварыства — Вільня, Вастрабрамская вуліца № 1.

*Кожная беларуская сям'я, у якой ёсьць дзеці школьнага ўзросту, мусіць выпісваць беларускую дзіцячую часопісь „Заранка“, а таксама павінна мець усе дзіцячыя кніжкі з „Бібліотэкі школьніка“.*

*„Заранка“, а таксама „Бібліотэка школьніка“ зьяўляюцца адзінаю крыніцаю, з якое беларускае дзіця можа навучыцца чытаць і пісаць у сваёй роднай мове. Вучыць-жа сваіх дзяцей граматы ў роднай мове — гэта наш абавязак, як беларусаў, як грамадзян і як бацькоў. Дык не забывайкося-ж аб гэтым і карыстаймо з гэтае адзінае магчымасьці.*

# Пытаньні і адказы.

**1. Пытаньне.** Што садзіць у гародзе, каб мець хутчэй і больш даходу.

**Адказ.** Суніцы, глядзі № 1 і 2 „Жаноцкае Справы“, чорную смуродзіну (парэчкі) і агрэст а каля горада — раньнюю бульбу—сьпешку, чырвоную месячную рэдзечку, шчаўе і рабарбар (рабарбар — расьліну, якую ў горадзе шмат купляюць на кампот). Глядзі № 2 „Ж. С“.

**2. Пытаньне.** Дачка мая канчае ў гэтым годзе паўшэхную школу, польскую. Хачу ёй даць асьвету ў сваёй роднай беларускай мове, парадзьце куды аддаць і куды зьвярнуцца ў гэтай справе. Галена К.

**Адказ.** Існуюць тры прыватныя беларускія гімназіі: у Вільні, Навагрудку і Клецку. Пры кожнай з гэтых гімназій ёсьць інтэрнат для вучняў і вучаніц. Падробна аб варунках, на якіх прымаюць дзяцей у гімназіі і інтэрнаты, можна даведацца ад дырэкцыі кожнай з гэтых гімназіяў. Скончэньне васьмі клясаў гімназіі дае права на паступленьне ў вышэйшыя школы. Апрача гэтага ў Вільні ёсьць урадовая беларуская вучыцельская сэмінарыя для хлапцоў і дзяўчат. Пры ёй таксама ёсьць інтэрнаты. Па скончэньні пяці курсаў гэтай сэмінарыі даюцца правы вучыцеля ці вучыцелькі ў урадовых пачатковых школах. Падробнасьці прыйма ў сэмінарыю і інтэрнат можна даведацца ў дырэкцыі семінарыі. Адрэс: Вільня, Ягелёнская вул. № 3. Вучыцельская Сэмінарыя імя Францішка Багушэвіча.

# Наша пошта.

**Гр-цы Смалонскай Марыі.** Два злоты атрымалі. Часапісь высылаецца.

**Гр-цы Голаўдзевічанцы Юзэфе.** Грошы атрымалі. Часапісь перадана.

**Гр-ну Хруцкаму Міхалу.** Пісьмо атрымалі. Часапісь выслана.

**Гр-цы Дземух Зосі.** Грошы атрымалі. Часапісь выслана.

**Гр-цы Гвай Марыі.** Падпіску атрымалі. Часапісь № 2 выслана.

**Гр-ну Іваноўскаму.** Грошы атрыманы. Часапісь выслана.

**Гр-ну Клімовічу Пятру.** Грошы атрыманы. Часапісь выслана.

**Гр-цы Катовічавай Лідзіі.** Грошы нам перадаsuccessfully. Часапісь выслана.

**Гр-цы Лобанавай Веры.** Грошы атрыманы. Часапісь высылаецца.

**Гр-ну Луцкевічу Антону.** Пісьмо нам перадана. Часапісь выслана.

**Гр-ну Пархімовічу Грыгору.** Грошы атрыманы. Часапісь выслана.

**Гр-ну Рудку Грыгору.** Першы нумар „Ж. С.“ высланы.

**Гр-ну Бондарэвічу Пятру.** Падпіска атрымана. Першы і другі нумары „Ж. С.“ высланы.

2-Р. 218
1931



# Варункі прыйма у Беларускую Дзяржаўную Сэмінарыю.

Да ўступнага экзамену на I курс Дзяржаўнай Вучыцельскай Сэмінарыі ім. Фр. Багушэвіча ў Вільні можа быць дапушчаны той, хто скончыў 7 аддз. пачатковае школы ці 4 кл. гімназіі і ня мае ў дзень 31 жніўня 1931 г. болей 16 год.

Кантрольныя экзамены адбудуцца ў гэтым годзе 25, 26 і 27 чэрвеня з наступных прадметаў: 1. Польскае мовы (пісьменны — дыктоўка і вусны — чытаньне, апавяданьне і граматыка ў засягу праграмы пачатковае школы), 2. Беларускае мовы (пісьменны і вусны — так сама, як з польскае мовы), 3. Арытмэтыка (вусны і пісьменны — задачы на ўсе чатыры дзеяньні з звычайнымі і дзесяткавымі дробамі а такжа працэнтныя аблічэньні, 4. Здольнасьці слуху (сьпеў)

Заявы аб дапушчэньні да экзамену прыймаюцца ў канцэлярыі Сэмінарыі да 23 чэрвеня г. г. уключна.

Да заявы трэба далучыць: 1) мэтрыку нараджэньня, 2) уласнаручна напісаны жыцьцярыс, 3) пасьведчаньне аб паўторным прышчэпе воспы, 4) апошняе школьнае пасьведчаньне, 5) дзьве фотографіі.

Перад дапушчэньнем да экзаменаў адбудзецца лекарскі агляд стану здароўя, кандыдатаў(так) дзеля сьцьвярджэньня здольнасьцяў, патрэбных для вучыцельскай прафэсіі.

УВАГА: Усялякія фізычныя калецтвы, як вонкавыя, так і ўнутраныя хваробы, напр. сухоты а таксама недахопы ў мове, будуць становічай перашкодай у прыйме ў Сэмінарыю.

Сэмінарыя — коэдукацыйная (мяшаная) Пры Сэмінарыі існуюць інтэрнаты для хлапцоў і дзяўчат. Найздальнейшыя, а незаможныя вучні могуць рабіць захады аб атрыманьні ўрадовай стыпэндыі ў суме 40 зл. месячна. Аплата ў інтэрнатах выносіць 60 зл. у месяц. Плата за навуку 20 зл. у паўгодкі. Апроч таго 2 зл. у паўгодкі за лекарскую помач.

Кандыдаты(кі) на II курс будуць прыймацца выключна восеньню (паміж 15—30 жніўня г. г).


# БЕЛАРУСКАЯ ГІМНАЗІЯ Бацькаўскага Камітэту

## Ў ВІЛЬНІ [Вострабрамская 9].

### З правамі Дзяржаўных Гімназіяў

УСТУПНЫЯ ЭКЗАМІНЫ Ў ГІМНАЗІЮ ВЯСНОЮ 1931 Г. АДБУДУЦЦА ДЛЯ ПАСТУПАЮЧЫХ У I, II, III, IV, V, VI, і VII КЛЯСЫ ПАМІЖ 15 і 25 ЧЭРВЕНЯ.

АПОШНІ ТЕРМІН ПАДАЧЫ ЗАЯВАЎ 10 ЧЭРВЕНЯ.

УВАГІ: 1) Да заявы павінны быць далучаны: а) мэтрыка аб нараджэньні, б) школьнае пасьведчаньне (тэй школы дзе вучыўся), а, калі з хатняй падгатоўкай, то пасьведчаньне ад гміны, ці паліцыі, а то сьвяшчэньніка, або ксяндза і в) лекарскае пасьведчаньне аб прышчэпе воспы і аб агульным стане здароўя. 2) У I-ую кл. прымаюцца ад 9½ да 12 гадоў, у II — ад 10½ да 13 гадоў, у III — ад 11½ да 14 і г. д. Дзеці і пераросшыя гэтыя нормы, могуць быць прыняты ў адпаведныя клясы, калі Пэдагогічная Рады Гімназіі прызнае ўважнымі тыя прычыны, якія выклікалі гэтае спазненьне. Прычыны гэтыя павінны быць паказаны ў заяве.

**ДЫРЭКЦЫЯ.**


Цана ў краі: за год 6 зл. 50 гр., за паўгода 3 зл. 25 гр., за квартал 1 зл. 65 гр. Заграніцу ўдвая даражэй.

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Вільня, Карльсбадзкая вул. 33 42.

Рэдактарка: Н. Шнаркевічыха. Выдавецтва: Аб'яднаньне Беларускіх Жанчын імя Ал. Пашкевічанкі (Цёткі).

Друкарня А. Дворжэца, Вільня, Завальная вуліца 32.